Гродна
№3 (532),
9 лютага 2020

www.slowo.grodnensis.by


# Слова Жыцця


ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ




# РАДАСЦЬ БЕСКАРЫСЛІВАГА СЛУЖЭННЯ




У апошні час валанцёрскі рух набірае абароты. Гэта звязана з тым, што яго сталі актыўна прапагандаваць, а таксама папулярызаваць рознага роду добраахвотніцкую дзейнасць

**11 лютага Каталіцкі Касцёл адзначае Сусветны дзень хворых. Гэта асаблівая нагода, каб узмацніць салідарнасць з тымі, хто пакутуе і чакае дапамогі, а таксама каб прыгадаць дзейнасць людзей, якія сталі міласэрнымі самаранінамі для бліжніх.**


● працяг на с. 3


# СВЯТАЯ КНІГА

**Сёлета ў Каталіцкім Касцёле ўпершыню адзначалася Нядзеля Божага слова, якую ўстанавіў папа Францішак. Адпаведны дакумент Святы Айцец падпісаў у дзень літургічнага ўспаміну смерці св. Гераніма – вялікага перакладчыка Бібліі на зразумелую простым людзям мову.**


● працяг на с. 4–5




**“На старонках Евангелля запісана гісторыя любові Бога да чалавека”. Папа Францішак**

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

**V ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ**
**Мц 5, 13–16**

Езус сказаў сваім вучням: “Вы – соль зямлі. Калі ж соль страціць смак, то чым пасоліш яе? Яна ўжо ні на што не прыдасца, хіба што выкінуць яе вон на патаптанне людзям. Вы – святло свету. Не можа схавацца горад, які стаіць на вяршыні гары. І, запаліўшы свяцільнік, не ставяць яго пад пасудзінаю, але на свечніку, і свеціць усім, хто ў доме. Няхай святло вашае так свеціць перад людзьмі, каб яны бачылі вашыя добрыя ўчынкі і праслаўлялі Айца вашага, які ў нябёсах”.

### БЫЦЬ СОЛЛЮ ЗЯМЛІ І СВЯТЛОМ СВЕТУ

Вучні Хрыста павінны быць соллю зямлі і святлом свету. Соль – гэта штосьці ўсеагульнае, паўсядзённае, але адначасова штосьці вельмі каштоўнае, штосьці, што цяжка замяніць. Соль павінна зберагчы свет і чалавецтва ад псавання, а таксама падтрымліваць жаданне жыць і спрыяць таму, каб чалавек заставаўся чалавекам. Аднак калі соль страціць свой смак, тады ж знікне клопат пра яе. Будучы соллю зямлі, вучні Хрыста пакліканы нястомна чуваць, каб духоўна не выветрыцца, таму што свет, які не знойдзе ў іх таго, чаго патрабуе, у сваім расчараванні і горычы пагардзіць імі, захоча адкінуць і растаптаць, як бескарысных.

Езус Хрыстус называе сваіх вучняў таксама святлом свету. Праз іх людзі маюць пазнаваць Бога і такім чынам станавіцца Яго дзецьмі. Гэтую задачу вучні выканаюць толькі тады, калі стануць падобныя да Бога думкамі, словамі і ўчынкамі. Ім належыць гарэць абсалютным святлом у месцы, з якога яно лепш за ўсё бачнае, а таму і эфектыўнае.

Вобразамі солі і святла Езус прыгадвае нам, сваім вучням, што павінны заставацца імі заўсёды і ўсюды, нягледзячы на акалічнасці і наступствы. Калі праз слова і сведчанне ўласнага жыцця мы не ўплываем на акружэнне, у якім пастаўлены Богам, значыць, альбо яшчэ не з’яўляемся соллю, альбо ўжо выветрыліся і сталі бескарыснымі.

**Ці з’яўляюся я соллю ў сваёй сям’і, на працы, у асяроддзі, дзе жыву?**

**Якія маю адносіны з іншымі людзьмі?**

**VI ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ**
**Мц 5, 17–37**

Езус сказаў сваім вучням: “Не думайце, што Я прыйшоў адмяніць Закон ці Прарокаў. Не адмяніць прыйшоў Я, а выканаць. Бо сапраўды кажу вам: пакуль не міне неба і зямля, ніводная ёта, ніводная рыска не зменіцца ў Законе, пакуль не збудзецца ўсё. Таму, калі хто парушыць адну з гэтых найменшых запаведзей і навучыць гэтаму людзей, той найменшым назавецца ў Валадарстве Нябесным. Хто ж выканае і навучыць, той вялікім назавецца ў Валадарстве Нябесным. Бо кажу вам, калі справядлівасць ваша не пераўзыдзе справядлівасці кніжнікаў і фарысеяў, то вы не ўвойдзеце ў Валадарства Нябеснае. Вы чулі, што было сказана продкам: «Не забівай», – а хто заб’е, падлягае суду. А Я кажу вам, што кожны, хто гневаецца на брата свайго, падлягае суду. Хто ж скажа брату свайму «рака», падлягае Сінэдрыёну, а хто скажа «неразумны», падлягае геене вогненнай. Таму, калі прынясеш дар свой да ахвярніка і ўспомніш там, што брат твой мае нешта супраць цябе, пакінь дар свой перад ахвярнікам і ідзі спачатку памірыся з братам сваім, а тады прыйдзі і прынясі свой дар. Мірыся з праціўнікам тваім хутка, пакуль ты з ім яшчэ ў дарозе, каб праціўнік не аддаў цябе суддзі, а суддзя не аддаў цябе слугу, і каб не ўкінулі цябе ў вязніцу. Сапраўды кажу табе: не выйдзеш адтуль, пакуль не аддасі апошні грош. Вы чулі, што сказана: «Не чужалож». А Я кажу вам: кожны, хто з пажадлівасцю глядзіць на жанчыну, ужо ўчыніў з ёю чужалоства ў сваім сэрцы. Калі правае вока тваё спакушае цябе, вырві яго і адкінь ад сябе, бо лепей табе, калі загіне адзін з тваіх членаў, чым усё цела тваё будзе кінута ў геену. І калі правая рука твая спакушае цябе, адсячы яе і адкінь ад сябе, бо лепей табе, калі загіне адзін з тваіх членаў, чым усё цела тваё пойдзе ў геену. Сказана: «Калі хто адпускае жонку сваю, няхай дасць ёй разводны ліст». А Я кажу вам: кожны, хто развядзецца з жонкаю сваёю, акрамя як з прычыны распусты, той даводзіць яе да чужалоства, а хто ажэніцца з разведзенаю, той чужаложыць. Вы чулі, што сказана было продкам: «Не прысягай фальшыва, а выконвай перад Богам прысягі свае». А Я кажу вам: не прысягайце наогул: ні небам, бо гэта пасад Божы; ні зямлёю, бо гэта падножжа ног Ягоных; ні Ерузалемам, бо гэта горад вялікага Караля. Ні галавою сваёй не прысягай, бо не можаш ніводнага воласа зрабіць белым або чорным. Няхай будзе слова вашае «так-так», «не-не». А што звыш гэтага, тое ад злога”.

### ПРЫПАДОБНІЦЦА ДА ХРЫСТА

Часта, слухаючы казанне на Гары, канцэнтруемся на патрабаваннях, якія перад намі ставіць Езус. Здаецца, што выканаць іх амаль немагчыма. Нам вельмі хацелася б ісці па ўказанай Збаўцам дарозе, але, будучы рэалістамі, разумеем, што гэта няпроста, калі наогул магчыма. Разам з тым забываемся, што Той, хто прамовіў такія словы, кожнае з пастаўленых патрабаванняў выканаў у сваім жыцці. У Езусе Хрысце Закон атрымаў новае значэнне. Ён не адмяніў старазапаветных правіл, а надаў ім адпаведны сэнс і паказаў, якім чынам самі можам іх выконваць.

Езус звяртаецца да нас у паўнаце аўтарытэту Найсвяцейшай Тройцы, роўны Айцу. Яго навучанне перапоўнена Божай моцай, уцелаўленнем якой Ён сам з’яўляецца. Адначасова Хрыстос поўнасцю застаецца чалавекам, а мы як хрысціяне закліканы прыпадобніцца да Яго. Уласнымі сіламі не здолеем гэтага зрабіць. Мусім адкрыцца на Хрыста і прасіць дапамогі Святога Духа, які будзе нас весці да паўнаты, падрыхтаванай Айцом.

**Чым для мяне з’яўляюцца Божыя запаведзі?**

**Ці стараюся выконваць іх у штодзённым жыцці?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Вартасць цярпення

*Ёсць разнастайныя цярпенні: звязаныя са смерцю блізкай асобы, з хваробай – уласнай ці кагосьці роднага, з драмай распаду шлюбу, з адзінотай...*

Калі чалавек пакутуе, пачынае пытацца: чаму гэта здарылася са мной? Чаму закранула маю сям’ю? Чаму Бог дазволіў гэтае цярпенне? Чаму? Пытанняў шмат, а адказаў усё менш альбо ўвогуле няма.

Цярпенне прымушае нас задумацца, задаць сабе важныя пытанні, якія ўжо даўно не задавалі. І таму часам яно неабходна, каб не заснуць у самазадаволенасці, эгаізме. Часта па-іншаму Бог не можа дастукацца да нас. Можам быць упэўнены, што Ён заўсёды дае такі крыж, які мы здольны несці, ставіць на такі шлях, які можам пераадолець.

Перажываючы моцныя пакуты, чалавек часам закрываецца ад Усемагутнага, кажучы: “Бога няма”. Калі ўсе надзеі знікаюць, а любячыя людзі аказваюцца бяссільнымі, застаецца толькі Бог. Ён можа правесці церпячую асобу са смерці да жыцця, удзяліць ласку, неабходную для пераадолення слабасці, натхніць новай надзеяй. Часам трэба аказацца на дне людскога цярпення, каб пачаць звяртацца да Бога. Некаторыя менавіта ў досведзе болю адкрываюцца на Яго. Магчыма, упершыню пачынаюць размаўляць з Богам, просяць у Яго аб здароўі, замаўляюць св. Імшу, запрашаючы ў сваё жыццё.

У муках на крыжы Хрыстос прыняў усе чалавечыя пакуты. Цярпенне кожнага з нас таксама было пераадолена. І калі яно спалучаецца з Яго Крыжом, набывае збаўчую сілу, спрыяе выратаванню свету і ўносіць духоўныя каштоўнасці ў супольнасць Касцёла. Таму св. Павел пісаў: “Цяпер я радуюся за вас у цярпеннях і дапаўняю недахоп у маім целе пакут Хрыста за Ягонае цела, якім ёсць Касцёл” (Кал 1, 24).

**Дарагія Чытачы!**

**Давайце не падаць духам, калі навальваюцца цярпенні, нягоды, смутак і хваробы. Давайце ўзброімся цнотай цярплівасці, і тады любы боль і любая горыч ператворацца ў сапраўдную асалоду.**

**ЖЫЦЬ ЕВАНГЕЛЛЕМ**
**ПЕРШЫ СІНОД ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ**

## Апытальнік на падставе прац камісій І Сінода Гродзенскай дыяцэзіі

### Камісія па справах новай евангелізацыі (рухаў і таварыстваў)

1. Якія Вы ведаеце таварыствы і рэлігійныя рухі?
2. Якія рэлігійныя рухі і таварыствы існуюць і дзейнічаюць у Вашай парафіі?
3. Што Вы разумееце пад выразам “новая евангелізацыя”?
4. Як думаеце, ці існуе сёння патрэба новай евангелізацыі, і як можна яе рэалізаваць у парафіі, дэканаце, дыяцэзіі?
5. Ці лічыце якасным развіццё рэлігійных рухаў у Вашай парафіі, дэканаце, дыяцэзіі?
6. Ці ўдзяляецца адпаведная ўвага развіццю рэлігійных рухаў і таварыстваў у Вашай парафіі, дэканаце, дыяцэзіі?
7. Ці лічыце дастатковым клопат духоўных і кансэкраваных асоб аб дзейнасці рэлігійных рухаў?
8. Хто, на Вашу думку, павінен пераважна кіраваць рэлігійнымі рухамі – духоўныя ці свецкія асобы? Чаму?
9. На якім узроўні ў рэлігійных рухах павінна адбывацца супрацоўніцтва паміж духоўнымі і свецкімі асобамі?
10. Якія напрамкі развіцця рэлігійных рухаў лічыце найбольш патрэбнымі ў Вашай парафіі, дэканаце, дыяцэзіі?
11. Якія маеце прапановы адносна ажыўлення дзейнасці рэлігійных рухаў і таварыстваў у Вашай парафіі, дэканаце, дыяцэзіі?

### Камісія па справах місій

1. Што Вы разумееце пад выразам “каталіцкія місіі”?
2. Ці ўдзяляецца адпаведная ўвага тлумачэнню сутнасці каталіцкіх місій у Вашай парафіі, дэканаце, дыяцэзіі? Ці лічыце асвету ў гэтым плане дастатковай?
3. Ці з’яўляецца, на Вашу думку, лакальны Касцёл адкрытым на місійныя патрэбы Паўсюднага Касцёла?
4. Якія намаганні і ініцыятывы ладзяцца ў Вашай парафіі, дэканаце і дыяцэзіі для справы развіцця каталіцкіх місій?
5. Якія маеце прапановы адносна ажыўлення місійнай дзейнасці ў Вашай парафіі, дэканаце, дыяцэзіі?

### Камісія па справах сродкаў масавай інфармацыі

1. Якія дыяцэзіяльныя каталіцкія СМІ Вы ведаеце і як часта імі карыстаецеся?
2. Якія агульнабеларускія СМІ Вы ведаеце і як часта імі карыстаецеся?
3. Якія іншыя каталіцкія СМІ Вы ведаеце і як часта імі карыстаецеся?
4. Як ацэньваеце прысутнасць дыяцэзіяльнага Касцёла ў медыйнай прасторы – тэлебачанні, радыё, прэсе і інтэрнэце?
5. Што, на Вашу думку, можна зрабіць, каб абудзіць большую зацікаўленасць каталіцкімі СМІ сярод дзяцей, моладзі, дарослых?
6. На Ваш погляд, якія выклікі сёння стаяць перад каталіцкімі СМІ ў дыяцэзіі?
7. Як ацэньваеце падрыхтаванасць духоўных, кансэкраваных і свецкіх асоб, каб развіваць каталіцкія СМІ ў нашай дыяцэзіі?
8. Які, на Вашу думку, уплыў на жыццё лакальнага Касцёла сёння мае дзейнасць католікаў у свецкіх СМІ?
9. Як раіце найлепш выкарыстоўваць сацыяльныя сеткі для пашырэння аўтарытэту Касцёла сярод дзяцей і маладога пакалення?
10. Што можаце прапанаваць для ажыўлення дзейнасці мясцовага Касцёла ў СМІ?

***Прыняць удзел у сінадальнай працы можа кожны жадаючы. Запоўнены апытальнік неабходна даслаць у сакратарыят Сінода на паштовы адрас: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 4, Курыя, – або на электронную скрыню: synodus.grodnensis@gmail.com.***

# РАДАСЦЬ БЕСКАРЫСЛІВАГА СЛУЖЭННЯ


Валанцёр – гэта чалавек, які аддае свой час, сілы, любоў і дабрыню людзям, не патрабуючы нічога ўзамен

● працяг са с. 1

***Аб тым, чаму час, праведзены з хворым, – святы час, у чым сутнасць валанцёрства і як можна падтрымаць церпячых, разважаем разам з с. Аляксандрай Арэшка з Кангрэгацыі Сясцёр Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта.***

## ШЛЯХ ДА ВАЛАНЦЁРСТВА

С. Аляксандра Арэшка CSFN дапамагае ў якасці валанцёра цяжкахворым у хоспісе для дарослых. Дзейнасць на карысць тых, каго ўжо нельга вылечыць, хто знаходзіцца ў самай апошняй, тэрмінальнай стадыі хваробы, стала неад'емнай часткай жыцця манахіні з 2018 года. Нягледзячы на тое, што ўжо была паклікана на службу Богу і людзям, мела асабістыя абавязкі ў супольнасці, яе не пакідала жаданне знайсці "пакліканне ў пакліканні", каб рэалізаваць сябе на ўсе сто адсоткаў. У сувязі з гэтым было шмат пошукаў і спроб, але сястра адчувала, што "ўсё не тое".

***"Аднойчы ў сацыяльных сетках я ўбачыла аб'яву наступнага зместу: «Цэнтр Дапамогі Жыццю» запрашае творчых людзей, якія займаюцца рукадзеллем, прыняць удзел у дабрачынным кірмашы на карысць пацыентаў хоспіса». А паколькі ў вольны час я майстравала паштоўкі, то з радасцю прапанавала свае вырабы,*** – распавядае с. Аляксандра. – ***Калі кірмаш скончыўся, мне патэлефанавалі супрацоўнікі цэнтра, каб падзякаваць, а я ў сваю чаргу запыталася, ці магу яшчэ чым-небудзь дапамагчы. У выніку была запрошана на сустрэчу, дзе пазнаёмілася з дзейнасцю першай у Беларусі ўстановы, якая бясплатна аказвае комплексную дапамогу невылечна хворым людзям. У той жа дзень я напісала заяву з просьбай прыняць мяне ў валанцёры".***

## АХІНАЦЬ СВАЁЙ АПЕКАЙ ШТОДНЯ

Манахіня ўзгадвае, што першы дзень у хоспісе быў вельмі хвалюючым. Яна ўважліва назірала за вопытнымі валанцёрамі, вучылася, як правільна сябе паводзіць з пацыентамі, як пачынаць і падтрымліваць з імі размову. ***"Я на свае вочы ўбачыла, што тут нясуць сваё служэнне людзі, якія валодаюць, перш за ўсё, памяркоўнасцю, міласэрнасцю, паважлівым стаўленнем да хворага і, што немалаважна, адсутнасцю пачуцця гідлівасці,*** – дзеліцца манахіня. – ***Таксама я зразумела, што кожны чалавек, які прыходзіць у хоспіс у якасці валанцёра, павінен мець вялікае сэрца; што ў працэсе зносін з цяжкахворай асобай і яе блізкімі валанцёру давядзецца мяняць ролі: у нейкіх пытаннях быць памочнікам, у нейкіх – партнёрам, у нейкіх – сябрам ці проста чалавекам, які прысвяціў час, падзяліўся сваім цяплом, пабыў побач".***

З цягам часу с. Аляксандра атрымала неабходныя навыкі і распачала сваё служэнне ў хоспісе: стала абмываць хворых, стрыгчы ім пазногці, мяняць бялізну, а таксама цешыць слодычамі і гарбатай, прапануючы "Вазок радасці".

***"У хоспісе ўрачы, медсёстры і валанцёры ўсімі магчымымі спосабамі імкнуцца забяспечыць лепшую якасць жыцця невылечна хворым, паколькі кожны чалавек мае права правесці апошнія дні жыцця так, каб не было балюча і самотна, а значыць, не было страшна. Таму нароўні з медыцынскімі працэдурамі і абязбольваннем – канцэрты, прысмакі, утульная атмасфера, даверлівыя зносіны, суперажыванне і абмеркаванне хвалюючых тэм. Няважна, колькі засталося – год, месяц ці нават тыдзень. Галоўнае, каб сённяшні дзень чалавек пражыў якасна, у эмацыянальным дабрабыце,*** – падкрэслівае суразмоўца. – ***Як праходзіць побыт пацыента хоспіса? Ён у асноўным ляжыць у палаце. І калі побач ёсць той, з кім можна пагаварыць, які прынясе не шпітальную ежу, няхай нават самую смачную, а, напрыклад, кавалак пірага ці духмяны яблык, гэта зробіць хворага хоць крыху больш шчаслівым у дадзены момант".***

С. Аляксандра звяртае ўвагу на тое, што вакол хоспісаў вельмі шмат міфаў. Адзін з іх пераконвае, што хоспіс – дом смерці. А гэта далёка не так! Наадварот, невылечна хворых людзей тут "вяртаюць" да жыцця, у якім няма болю, трывогі і адзіноты. Таксама многія лічаць, што адправіць блізкага чалавека ў хоспіс – здрада. Як яму потым глядзець у вочы? ***"На самой жа справе сорамна не аказаць належную дапамогу, калі чалавек ляжыць дома і пакутуе ад болю,*** – падкрэслівае манахіня. – ***У хоспісы не «здаюць». Іх выбіраюць самі хворыя ці іх родныя як самае аптымальнае рашэнне, калі патрэбную дапамогу па нейкіх прычынах не могуць аказаць у хатніх умовах: калі чалавек самотны альбо калі яму патрэбна пэўнае медыцынскае абсталяванне ці спецыяльны догляд, які сваякі не ў стане забяспечыць. Варта падкрэсліць, што выбар на карысць хоспіса не азначае, што ад чалавека адмовіліся, паколькі родныя ў любы час могуць яго наведаць".***


С. Аляксандра дапамагае пацыенту хоспіса ў выкананні гігіенічных працэдур

*Сусветны дзень хворых адзначаецца 11 лютага не выпадкова. Менавіта ў гэты дзень у 1858 годзе адбылося першае аб'яўленне Маці Божай у Лурдзе (Францыя). Такім чынам, духоўным натхненнем для хворых і іх апекуноў з'яўляецца Найсвяцейшая Панна Марыя. Менавіта таму галоўныя ўрачыстасці па чарзе, раз на 2-3 гады, адбываюцца ў марыйных санктуарыях свету.*

## ВЫПРАБАВАННЕ ДЛЯ ДУШЫ І ВЕРЫ

Як адзначыў у пасланні на XXIV Сусветны дзень хворых папа Францішак, людзі, якія пакутуюць ад цяжкай хваробы, часта схільныя да таго, каб у глыбіні душы задаваць сабе пытанні: "Чаму гэта здарылася менавіта са мной? Чаму Бог пасылае мне такія выпрабаванні?". Некаторыя з іх, адоленыя пачуццём несправядлівасці, упадаюць у адчай, думаюць, што ўсё страчана. Іншыя ж наадварот – пакутуюць, але разам з тым выказваюць згоду з воляй Божай. Вера служыць ім крыніцай суцяшэння: яна не знішчае хваробу, але дае ключ, з дапамогай якога чалавек можа адкрыць для сябе больш глыбокі сэнс пакуты, убачыць, што яна набліжае да Езуса, які ідзе побач.

***"У маю памяць урэзаўся адзін дзень, калі стала сведкам адыходу пацыента хоспіса ў іншы свет,*** – узгадвае манахіня. – ***Я дапамагала хвораму выконваць гігіенічныя працэдуры, як раптам пачула з суседняй палаты жаночы лямант: "Дапамажыце! Памаліцеся!". Хуценька прыбегла на голас, стала каля ложка хворай і пачала чытаць малітву "Вітай, Марыя". Ужо праз некалі секунд нямоглая знайшла ў сабе апошнія сілы, прыпаднялася на локцях і пачала голасна маліцца: «Веру ў Бога...», – а я ў той момант гладзіла яе па галаве. Напрыканцы малітвы жанчына стала спакойнай, пасля паклала галаву на падушку і заснула, а ўжо праз пару гадзін адышла да Госпада. Гэтая гісторыя выразна паказвае, што чалавек у час цярпення мае вялікую патрэбу ў Божай падтрымцы".***

С. Аляксандра падкрэслівае, што час, праведзены з хворымі, дапамог ёй асэнсаваць шмат рэчаў. Манахіня гаворыць, што хоспіс – гэта, магчыма, адзінае месца, дзе час цэніцца, дзе жыццё ўспрымаецца як каштоўнасць, незалежна ад працягласці. Штодня яна становіцца сведкай момантаў, калі такія дробязі, як прамень сонца праз хмары, шчабятанне птушак ці свежая духмяная гарбата, на якія мала хто звяртае ўвагу ў паўсядзённасці, адчуваюцца як сапраўднае шчасце.

*Кінга Красіцкая*

## СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

### *Папа Францішак*



*Асобам, прыгнечаным з-за слабасці і болю, Езус Хрыстус не навязвае прававых норм, а прапануе сваю міласэрнасць – г. зн. самога сябе як аднаўляючую моц. Езус глядзіць на зраненае чалавецтва. Ён мае вочы, якія бачаць і якія заўважаюць, бо глядзяць глыбока, не аглядаюць абыякава, а затрымліваюцца і ўспрымаюць цэлага чалавека, кожнага з яго станам здароўя, не адкідваючы нікога, запрашаючы кожнага ўвайсці ў Яго жыццё, каб адчуць міласэрнасць. Навошта Езус Хрыстус жывіць гэтыя пачуцці? Таму што Ён сам зрабіў сябе слабым, перажываючы людское цярпенне і атрымліваючы затым умацаванне ад Айца. Фактычна толькі той, хто асабіста перажывае гэты досвед, здолее суцешыць іншага.*

*Існуе некалькі сур'ёзных форм цярпення: невылечныя і хранічныя захворванні, псіхічныя захворванні, хваробы, якія патрабуюць рэабілітацыі ці паліятыўнай апекі, розныя інваліднасці, спецыфічныя захворванні дзіцячага і сталага ўзросту... У адносінах да іх часам не хапае чалавечнасці, таму абавязкова неабходны персанальны падыход да пацыента, дадаванне да лячэння таксама апекі з мэтай інтэгральнага аздараўлення чалавека. У хваробе асоба адчувае, што рызыцы падвяргаецца не толькі яе фізічная цэласнасць, але і пачуццёвае, разумовае, духоўнае вымярэнні жыцця; таму акрамя тэрапіі чакае падтрымкі, руплівасці, увагі – адным словам, любові.*

*Фрагмент Паслання на XXVIII Сусветны дзень хворых, 11.02.2020*

---

### *Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі*



*У Каталіцкім Касцёле ва ўсім свеце існуе каля 2000 манаскіх супольнасцей, да якіх належыць амаль мільён асоб. Кожная з іх мае сваю харызму. Айцы Касцёла параўноўваюць шматлікасць манаскіх супольнасцей і разнастайнасць дароў, якія яны маюць, з вялікай колькасцю кветак: яны хоць і розныя, але па-свойму прыгожыя; такім чынам, не выключаюць адна адну, а ўзбагачаюць і ствараюць непаўторны вобраз прыгажосці Касцёла.*

*Ёсць вялікая колькасць людзей, якія распазналі голас Бога і пайшлі за Ім. Аднак колькасць тых, хто не ведае Бога, у сучасным свеце нашмат большая і перавышае некалькі мільярдаў. Сёння Бог мае вострую патрэбу ў кансэкраваных асобах, каб праз сведчанне жыцця і слова дапамагчы многім людзям сустрэцца з Ім.*

*Фрагмент Пастырскага ліста на свята Ахвяравання Пана, 02.02.2020*

# СВЯТАЯ КНІГА

● працяг са с. 1

**_Пра сутнасць Нядзелі Божага слова і каштоўнасць кнігі Святога Пісання ў інтэрв'ю для "Слова Жыцця" распавядае кс. канонік Аляксандр Мацкевіч, доктар біблійнай тэалогіі і выкладчык Святога Пісання ў Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі._**



***– Кс. Аляксандр, у чым сэнс Нядзелі Божага слова? На які плён разлічана ініцыятыва Святога Айца?***

– Папа Францішак у апостальскім пасланні ў форме motu proprio "Aperuit illis" падкрэслівае, што ўстанаўленне Нядзелі Божага слова мае на мэце прыгадаць праўду пра тое, што Бог у сваёй бясконцай любові вядзе са сваім людам нястомны дыялог. Гэты дыялог адбываецца праз Святое Пісанне, якое Пантыфік называе скарбніцай, што змяшчае ў сабе невычэрпныя духоўныя багацці. Урачыстая цэлебрацыя Нядзелі Божага слова мае быць выразам нашай удзячнасці Пану Богу за такі цудоўны дар. Акрамя таго, адзначэнне нядзелі, прысвечанай Божаму слову, павінна заахвоціць нас да штораз глыбейшага ўключэння ў поўны любові дыялог з Богам праз частае, а лепш за ўсё рэгулярнае чытанне Святога Пісання, разважанне яго зместу і кіраванне ім у паўсядзённым жыцці.

Варта заўважыць, што ўзгаданы папскі дакумент не ўсталёўвае нейкіх канкрэтных літургічных норм ці абрадаў, звязаных з цэлебрацыяй Нядзелі Божага слова, але заахвочвае кожную супольнасць у Касцёле перажываць гэты дзень урачыста і знайсці такую форму святкавання, якая б выразна падкрэсліла значэнне Бібліі ў жыцці Касцёла і ўказала вернікам вартасць як асабістага, так і супольнаснага чытання Божага слова.

***– Папа Францішак адзначыў, што цэлебрацыя Нядзелі Божага слова носіць экуменічны характар. Якім чынам гэта павінна дапамагчы ўмацаваць сувязь паміж рэлігіямі?***

– Безумоўна, Нядзеля Божага слова выдатна ўпісваецца ў кантэкст студзеня – месяца, падчас якога стараемся ўмацаваць нашу духоўную сувязь з вызнаўцамі іудаізму і молімся аб еднасці хрысціян. Святы Айцец Францішак падкрэслівае, што выбар менавіта гэтага перыяду літургічнага года не быў выпадковасцю.

Верым, што Пан Бог скіраваў сваё Слова найперш выбранаму народу – люду Ізраэля. Тое, што мы, хрысціяне, называем Старым Запаветам, з'яўляецца Бібліяй яўрэйскага народу, якую мы "атрымалі ў спадчыну" ад сваіх старэйшых братоў у веры. Чытаючы Стары Запавет, даведваемся аб тым, як Пан Бог аб'яўляў сябе сынам Ізраэля, як нястомна ўваходзіў з імі ў дыялог любові, прамаўляючы да свайго люду рознымі спосабамі: як праз словы прарокаў і натхнёных біблійных аўтараў, так і праз канкрэтныя гістарычныя падзеі, у якіх народ Ізраэля бачыў рэалізацыю збаўчых Божых планаў. Чым глыбей як хрысціяне пазнаём Стары Запавет, тым лепш разумеем, якая моцная сувязь яднае нас з вызнаўцамі іудаізму: вера Ізраэля і яго гісторыя – частка супольнай гісторыі збаўлення.

У святле хрысціянскай веры Божае аб'яўленне дасягнула сваёй паўнаты ў Асобе Езуса Хрыста – уцелаўлёнага Божага слова. Як чытаем у Пасланні да Габрэяў, "шмат разоў і па-рознаму прамаўляў калісьці Бог да айцоў нашых праз прарокаў, у гэтыя апошнія дні прамовіў да нас праз Сына" (Гбр 1, 1–2а). Усе хрысціянскія канфесіі прызнаюць Біблію крыніцай Божага аб'яўлення і вераць, што ўсё Святое Пісанне – як Стары, так і Новы Запавет – сведчыць аб Хрысце: пазнаванне Бібліі набліжае чалавека да Божага Сына і робіць магчымай асабістую сустрэчу з Ім. Таму паслядоўнікі Хрыста незалежна ад канфесіі, да якой належаць, не толькі глыбока паважаюць Святое Пісанне, але і імкнуцца рэгулярна чытаць і лепш пазнаваць Божае слова, каб магчы рэалізаваць яго ў сваім жыцці. Чым больш мы наблізімся да Хрыста, тым лепш пазнаем Яго, чым больш любові да Яго будзем



*У 2015 годзе падчас Дыяцэзіяльных дзён моладзі ў Смаргоні я ўступіла ў Рух чыстых сэрцаў, дзе адным з абавязкаў пазначалася штодзённае чытанне Бібліі. Спачатку прыходзілася перадольваць лянoту, каб адкрыць і прачытаць Евангелле. Аднак праз некаторы час з'явілася сапраўдная зацікаўленасць і патрэба ў духоўнай парадзе, якую можна атрымаць, чытаючы Божае слова.*

*Святое Пісанне дае мне шмат падказак, як выходзіць з цяжкіх сітуацый, як радавацца, як любіць, як прабачаць, як сябраваць, урэшце – як жыць... Здараюцца моманты, калі я абцяжарана праблемамі і адчуваю ў душы прыгнятаючы недахоп святла. Тады са смагай адкрываю Евангелле, і словы, якія чытаю, ператвараюцца ў жыватворную вільгаць для сэрца. Гэта неверагодна!*

*Да сёння стараюся адкрываць Біблію штодня. Часцей выкройваю для гэтага час увечары, калі пасля заняткаў і штодзённых клопатаў хочацца пабыць крыху ў цішыні, паразважаць над мінулым днём. Іншы раз чытаеш які-небудзь урывак з Бібліі і ўсведамляеш, што нічога не зразумела або не хочаш разумець. І закрываеш Святое Пісанне. Аднак праз некаторы час трапляеш у пэўную сітуацыю, і прачытаныя словы самі ўсплываюць у памяці, складваючыся ў дасканалую мазаіку. Тады разумееш, што напісаныя словы Бога з'яўляюцца сапраўды Жывой Кнігай.*

***Марта Марцішэўская***



*У сучасным няпростым свеце, які прапануе шмат ідэй і шляхоў, штодзённае чытанне Святога Пісання дапамагае трываць у Хрысце. Біблія для мяне – гэта гісторыя жыцця Езуса, Яго спраў, Яго пакоры і цярплівасці, Яго служэння Айцу. Гэта прыклад сапраўднай любові Госпада да нас, грэшных. Калі хочам пазнаць хрысціянства, Хрыста, то чытанне Божага слова – самы натуральны і адавочны спосаб.*

*Асабліва часта я звяртаюся да свайго любімага ўрыўка, які адлюстроўвае мае адносіны з Нябесным Айцом. "Тым часам човен ужо адплыў шмат стадыяў ад берага. І кідалі яго хвалі, бо вецер быў супраціўны. У чацвёртую ж варту ночы Ён пайшоў да іх, ідучы па моры. Калі ж вучні ўбачылі, як Ён ідзе па моры, спалохаліся і казалі: «Гэта прывід». І ад страху закрычалі. Але Ён адразу загаварыў з імі і сказаў: «Будзьце адважнымі, гэта Я; не бойцеся!». Пётр сказаў Яму ў адказ: «Пане, калі гэта Ты, загадай мне ісці да Цябе па вадзе». Ён жа сказаў: «Ідзі!». Выйшаўшы з чоўна, Пётр пачаў ісці па вадзе і падышоў да Езуса" (Мц 14, 24–30). Гэтыя словы нагадваюць мне, што трэба без боязі давяраць Богу ўсю сваю працу, вучобу, трывогі і крочыць за Ім далей, таксама як Пётр паверыў і пайшоў. Калі вучань спалохаўся і пачаў тануць, Езус выратаваў яго. Галоўнае – памятаць: Хрыстос заўсёды побач. І не губляць веру, нават калі ўсё здаецца неймаверна цяжкім.*

***Дзяніс Юцкевіч***

## Варта ведаць

◆ *У Святога Айца Францішка новы асабісты сакратар – кс. Гансала Аэміліюс з Уругвая (Паўднёвая Амерыка). Ён замяніў на пасадзе 55-гадовага манс. Фабіяна Пэдак'ё Леаніза, які сышоў у адстаўку. З Пантыфікам новапрызначаны знаёмы з 2006 года, калі кард. Хорхе Марыа Берголіа, арцыбіскуп Буэнас-Айрэса (Аргенціна), патэлефанаваў яму, бо чуў пра працу святара з дзецьмі вуліцы. Абраны папам Францішкам сакратар будзе супрацоўнічаць з другім асабістым сакратаром Святога Айца кс. Ёанісам Лахзі Гайдам.*

◆ *Папскі тэалагічны інстытут навук аб сужэнстве і сям'і ім. Яна Паўла II адкрыў філіял у Мадрыдзе (Іспанія). На цырымоніі інаўгурацыі сярод іншых прысутнічалі прэфект Кангрэгацыі каталіцкай адукацыі кард. Джузэпэ Версальдзі і Старшыня Папскай акадэміі жыцця абп Вінчэнца Палья. У адміністрацыйным парадку філіял будзе падпарадкоўвацца Каталіцкаму ўніверсітэту св. Антонія ў Мурсіі. Мэтай папскай ВНУ з'яўляецца ажыццяўленне вынікаў Сінода Біскупаў на тэму сям'і, які праходзіў у 2014 і 2015 гадах, а таксама рэалізацыя Апостальскай адгартацыі Святога Айца Францішка "Amoris laetitia".*

◆ *Партугалія прапануе UNESCO унесці культ Маці Божай з Назарэ ў спіс нематэрыяльнай спадчыны чалавецтва. Святыня ў гонар Багародзіцы з'яўляецца старэйшым марыйным санктуарыем у краіне. Згодна з легендай, у гэтую мясцовасць у IV стагоддзі трапіла драўляная фігурка Марыі, прывезеная адным з манахаў са Святой Зямлі, а першы касцёл паўстаў тут у XII стагоддзі. Акурат у гэты час у Партугаліі адбываецца перэгрынацыя цудатворнай статуі Маці Божай з Назарэ.*

◆ *Тры гістарычныя хрысціянскія супольнасці ў Казахстане – каталіцкая, праваслаўная і лютэранская – заснавалі Раду традыцыйных хрысціянскіх Цэркваў. Ініцыятары публічна абвясцілі аб стварэнні новага аб'яднання 13 студзеня бягучага года, а 25 студзеня арганізавалі першую сумесную падзею – экуменічнае набажэнства, на якое былі запрошаны таксама вернікі іншых пратэстанцкіх супольнасцей. Старшыня казахстанскага епіскапата біскуп дыяцэзіі Святой Тройцы ў Алматы Хасэ Луіс Мамбіела Сьера выказаў задавальненне стварэннем Рады, называючы яе "вялікім знакам еднасці".*

◆ *Браты францысканцы з кляштара Сакра-Канвента ў Асізі (Італія) распрацавалі новы шрыфт, якому далі назву Францішак. Манаская супольнасць натхнілася старадаўнім сярэднявечным пісьменствам, а таксама рукапісам св. Францішка, адрасаваным брату Леонэ. Першы царкоўны лічбавы шрыфт паўстаў у межах падрыхтоўкі да святкавання 100-годдзя часопіса "San Francesco", які, між іншым, ім скарыстаецца. Акрамя таго, шрыфт будзе даступны для бясплатнага спампоўвання ў інтэрнэце.*

*vaticannews.va; credo.pro; niedziela.pl*

мець у сваіх сэрцах, тым лягчэй нам будзе перадольваць доўгі і цяжкі шлях да еднасці.

***– У пратэстантаў і яўрэяў Біблія мае вельмі вялікае значэнне – штодня сягаюць да яе тэкстаў. Як прывіць гэтую звычку многім католікам?***

– На жаль, у сувязі з рознымі гістарычнымі ўмовамі, і не толькі, Каталіцкі Касцёл не заўсёды дастаткова клапаціўся аб тым, каб пасяліць у сэрцах сваіх вернікаў любоў да Святога Пісання і імкненне да частага асабістага яго чытання. У гэтым плане можна шмат чаму навучыцца ў прадстаўнікоў іудаізму ці ў братоў пратэстантаў.

На шчасце, Каталіцкі Касцёл "даганяе", асабліва пачынаючы з перыяду пасля II Ватыканскага Сабору, вынікамі якога сталі, між іншым, вялікі рух біблійнага аднаўлення, паглыбленне важнасці Святога Пісання ў літургіі, катэхезе, у агульным і спецыялізаваным душпастырстве, а таксама ў іншых сферах жыцця Касцёла. У пасляsaборны час нарадзілася шмат каштоўных душпастырскіх ініцыятыў, накіраваных на зацікаўленне вернікаў Бібліяй і палягчэнне вывучэння гэтай унікальнай Кнігі.

Варта адзначыць, што ў мясцовай рэчаіснасці гэты працэс пачаўся са значным спазненнем, таму што фактычна да пачатку 1990-ых гадоў на тэрыторыі былога Савецкага Саюза немагчыма было набыць экземпляр Бібліі, а душпастырская дзейнасць Касцёла, асабліва ў катэхетычна-адукацыйным аспекце, была значна абмежаваная. Такім чынам, у адрозненне ад заходніх краін, у нашым кантэксце толькі ў апошнім дзесяцігоддзі XX стагоддзя сапраўды ўзніклі ўмовы, якія дазвалялі асабістае і супольнаснае вывучэнне Святога Пісання.

Гэта, безумоўна, не азначае, што католікі да нядаўняга часу не ведалі Божага слова. Удзел у св. Імшы і іншых літургічных набажэнствах, падрыхтоўка да першых сакрамантаў, рэлігійнае выхаванне ў сям'і – усё гэта прыводзіла да таго, што самыя важныя моманты Бібліі былі вернікам вядомыя. Аднак абуджэнне ў людзей жадання асабістага чытання Божага слова па-ранейшаму застаецца вельмі важнай праблемай для ўсёй супольнасці Касцёла: не толькі для святароў, кансэкраваных асоб, катэхетаў, кіраўнікоў рэлігійных груп і рухаў, але і для тых вернікаў, якія ўжо адкрылі для сябе багацце і прыгажосць чытання Бібліі і якія цяпер, дзелячыся сведчаннем веры, могуць заахвоціць іншых (напрыклад, членаў уласнай сям'і, знаёмых, сяброў, калег) звярнуцца да Святога Пісання.

***– Як спалучыць тое, што Біблія з'яўляецца Божым словам, але напісана людзьмі? Што азначае натхнёнасць яе тэкстаў?***

– Біблійнае натхненне – адна з самых складаных тэалагічных праблем. Не ўнікаючы ў падрабязнасці і значна спрашчаючы, паняцце натхнення можна прадставіць наступным чынам: каб напісаць Біблію, Бог выкарыстаў людзей, якіх сам абраў і заклікаў да гэтай задачы, і адначасова так паўплываў на іх розум і волю, што яны верна і без памылак перадалі ўсё, што Ён хацеў адкрыць чалавецтву.

Тое, што Святое Пісанне – гэта натхнёная Кніга, азначае, што Усемагутны пэўным чынам "прынізіўся" да ўзроўню чалавека, скіроўваючы да яго свае Божае слова ў выглядзе слова чалавечага. Тут можна ўбачыць аналогію з таямніцай Уцелаўлення, у якой Божы Сын прынізіў сябе і прыняў чалавечую натуру. Развіваючы гэтую думку, можам зрабіць выснову, што гэтак жа, як Езус Хрыстус стаў падобным да чалавека ва ўсім, акрамя граху, так і Божае слова падобна на слова чалавечае ва ўсім, акрамя памылкі. Аднак тут варта ўдакладніць: Святое Пісанне не ўтрымлівае памылак у пытаннях, якія непасрэдна звязаны з нашым збаўленнем. Таму не трэба здзіўляцца, калі ў Святым Пісанні знойдзем некаторыя гістарычныя, геаграфічныя і прыродныя недакладнасці. Гэта цалкам натуральна: Біблія была напісана натхнёнымі аўтарамі, якія мелі звычайныя чалавечыя абмежаванні. Аднак вера кажа нам, што Святы Дух "пакланаціўся", каб у пытаннях збаўлення Святое Пісанне не ўтрымлівала нават найменшай памылкі. Таму разам з псалмістам можам хваліць Бога і дзякаваць Яму за такі цудоўны дар, якім з'яўляецца Біблія: "Слова Тваё – светач для маёй нагі і святло для маёй сцежкі" (Пс 119 (118), 105).

***– Чым з'яўляецца практыка веры без звароту да тэкстаў Святога Пісання? Ці мае шанс на развіццё?***

– Ва ўзгаданым ужо апостальскім паслані "Aperuit illis" папа Францішак цытуе вядомае выказванне св. Геранімa, доктара Касцёла (IV-V стагоддзе): "Няведанне Святога Пісання – гэта няведанне Хрыста". Зразумела, мы ўсе ў пэўнай ступені знаёмімся са Святым Пісаннем, нават прымаючы ўдзел у св. Імшы, слухаючы пропаведзі, удзельнічаючы ў традыцыйных набажэнствах і нават молячыся, таму што ўсе малітвы ў пэўнай ступені натхнёныя біблійным зместам. Думаю, цяжка было б знайсці католіка, які б зусім не кантактаваў з Божым словам.

І ўсё ж, глыбіня і інтэнсіўнасць нашага духоўнага жыцця могуць быць рознымі. І калі сапраўды хочам, каб наша вера не была слабой і павярхоўнай, а станавілася мацнейшай і больш пэўнай, калі прагнем узбагаціць свае духоўнае жыццё, усталяваць больш цесныя адносіны з Богам, даведацца, чаму верым так, а не інакш, адкуль бяруцца і на чым грунтуюцца праўды вызнаваемай намі веры – абавязкова трэба часта, а лепш за ўсё штодзённа чытаць Святое Пісанне.

У казанні, прамоўленым у першую Нядзелю Божага слова, Святы Айцец сказаў: "Нам патрэбна Яго Слова: слухаць сярод тысяч слоў кожны дзень тое адно Слова, якое гаворыць не пра рэчы, але распавядае пра жыццё. Дарагія браты і сёстры, давайце падрыхтуем у сабе месца для Божага слова! Давайце кожны дзень чытаць некалькі радкоў з Бібліі. Пачнём з Евангелля: будзем трымаць яго адкрытым на тумбачцы дома, насіць з сабой у кішэні ці сумцы, адкрываць на мабільных тэлефонах – дазволім яму натхняць нас кожны дзень. Тады ўбачым, што Бог побач з намі, што Ён асвятляе цемру і з любоўю вядзе наша жыццё на глыбіню". Няхай гэтае заахвочванне Святога Айца ўпадзе на ўрадлівую глебу чалавечых сэрцаў ва ўсім свеце!

***Як правільна чытаць Святое Пісанне? Ці можам інтэрпрэтаваць Божае слова даслоўна? Працяг інтэрв'ю чытайце ў наступным нумары.***

*Ангеліна Марцішэўская*



*З дзяцінства любіла слухаць, калі мая бабуля распавядала шматлікія біблейскія гісторыі пра Майсея, Давіда, Іова. На жаль, дзіцячая зацікаўленасць не перарасла ў свядомае жаданне звяртацца да Святога Пісання, калі я стала дарослай. Усё змянілася толькі некалькі гадоў таму, як пачала наведваць біблійныя сустрэчы. Спачатку было цяжка, незразумела, хацелася кінуць чытанне. Аднак час ішоў. Паступова з'явілася жаданне пазнаваць Евангелле самастойна.*

*Аднойчы падчас сустрэчы мы разважалі над урыўкам са Святога Пісання, дзе Езус ацаліў невідушчага. Святар, наш духоўны кіраўнік, адзначыў, што і сёння Езус ацаляе сляпых. Часта людзі жывуць і не бачаць, што паступаюць няправільна, робяць адны і тыя ж памылкі. Нечакана ў той самы момант нібы заслона з вачэй звалілася. "Гэта ж пра мяне...", – падумала я і зразумела, што на працягу многіх гадоў знаходжуся ў стане маркоты...*

*У маёй сям'і здарылася няшчасце, пасля чаго я моцна перажывала і трапіла ў дэпрэсію. І нібы з часам адчула сябе трохі лепш, аднак усё яшчэ прысутнічаў сум. Я перастала ўсміхацца. У хаце для фону заўсёды быў уключаны тэлевізар. У душы затаілася пустата. Я не заўважала, што працягваю хандрыць.*

*Звярнуўшыся да Бібліі, знайшла ацаленне. Езус гаварыў са мной праз Евангелле і адкрыў вочы маёй душы. Я ўбачыла, як няправільна жыла і нарэшце пазбавілася ад маркоты.*

*Пасля таго, як я стала "відушчай", усё змянілася. У першую чаргу, "сышоў" тэлевізар, я навучылася атрымліваць асалоду ад цішыні. Пачала заўважаць прыгажосць неба, усмішку жыццю навокал. І самае важнае, што дало мне Божае слова, – гэта сустрэча з Жывым Богам і разуменне таго, як моцна Ён мяне любіць!*

***Тэрэза Марціновіч***



*Лічу, што Біблія павінна быць настольнай кнігай кожнага католіка. Яе паўната раскрываецца толькі пры сістэматычным вывучэнні. Таму апошнія некалькі гадоў я стараюся чытаць Святое Пісанне штодня.*

*Паколькі Біблія – гэта Божае Адкрыццё, толькі з Яго дапамогай яе і можна зразумець. Праз малітву Госпад адкрывае свае таямніцы. Езус перад кожнай значнай праблемай сыходзіў у пустыннае месца на размову з Айцом. Гэта і ёсць для мяне прыклад пазнання Святога Пісання. Перад тым, як прыступіць да чытання Евангелля, у малітве прашу Госпада аб дары мудрасці ў пазнанні Яго слова. Часта выкарыстоўваю малітоўную форму чытання і разважання Бібліі – LECTIO DIVINA.*

*Звычайна я карыстаюся Бібліяй у сінадальным перакладзе. Калі сустракаю незразумелыя словы ці складана ўсведамляю пэўныя сказы, то праглядаю дадзены ўрывак са Святога Пісання ў іншым перакладзе, напрыклад, сучасным. Мяркую, што такім чынам можна больш дэтальна разглядзець кожны фрагмент Евангелля. Разам з тым, самае галоўнае для мяне – стаць не проста чытачом Бібліі, але выканаўцам прачытанага.*

***Анатоль Комінч***

## З КАТАЛІЦКІХ СМІ

CATHOLIC.BY

### Паслухмяныя нарачанцы

***Пастырскі год св. Яна Паўла II актыўна адзначаюць вернікі парафіі св. апостала Андрэя ў Нарачы (Мінска-Магілёўская архідыяцэзія).***

*Ужо распачаліся катэхезы для дарослых і дзяцей, прысвечаныя жыццю і вучэнню Папы-славяніна, апекуна мясцовай святыні. Хутка пройдзе конкурс ведаў пад дэвізам бягучага Пастырскага года "Адчыніце дзверы Хрысту!" і акцыя "У кожным бачыць Хрыста".*

*У парафіі падрыхтаваны адмысловы каляндар, дзе на кожны месяц распісаны мерапрыемствы, прысвечаныя св. Яну Паўлу II. Насычаны план можа стаць прыкладам для пераймання ў іншых парафіяльных супольнасцях, а таксама натхніць душпастыраў і вернікаў на новыя цікавыя ініцыятывы.*

PCh24.pl

### Моцныя Ружанцам

***Трывае малітоўны інтэнсіў у інтэнцыі маральнага аднаўлення Польшчы і палякаў.***

*Публічны Ружанец адгаворваецца ў розных мясцовасцях на працягу ўжо многіх месяцаў. Ініцыятыва разраслася асабліва чынам у 2017 годзе, калі на 100-годдзе фацімскіх аб'яўленняў паўстаў праект арганізацыі 100 грамадскіх ружанцовых малітваў. У хуткім часе аказалася, што палякі ахвотна ўзяліся за малітоўную акцыю. У публічны Ружанец уключыліся ўжо тысячы асоб.*

wiara.pl

### Католікі супраць каронавіруса

***Касцёл у Ганконгу (Кітай) выдаў новыя правілы, мэта якіх – прафілактыка і ахова касцёлаў і парафій ад каронавіруса.***

*У апублікаваным дакуменце вернікаў заклікаюць скрупулёзна прытрымлівацца правіл, каб прадухіліць – наколькі гэта магчыма – распаўсюджанне эпідэміі. Перш за ўсё, яны абавязаны насіць маскі, у тым ліку ў святынях. Не павінны ўдзельнічаць у Імшах, таксама і нядзельных, калі нейкім чынам кантактавалі з асобамі ці месцамі, якія маглі быць заражаны вірусам.*

*Акрамя таго, забаронена ўжыванне святой вады пры ўваходзе ў касцёл, а св. Камунія можа ўдзяляцца толькі на руку. Нельга таксама ўдзяляць спецыяльнае бласлаўленне дзецям, толькі агульнае, для ўсіх. Усе прынятыя меры носяць часовы характар.*



*З Богам праз штодзённасць*

# У дарозе са св. Дамінікам

“Усе людзі былі ахоплены яго міласэрнасцю; і, любячы ўсіх, ён сам быў любімы ўсімі… Аб’яўляў гэта сваім правам – радавацца з тымі, хто радуецца, і плакаць з тымі, хто плача”, – пісаў аб заснавальніку ордэна дамініканцаў яго наступнік бл. Ёрдан Саксонскі.

Дамінік Гусман нарадзіўся прыкладна ў 1170 годзе ў Калеруэга (Іспанія). Паходзіў са старажытнага шляхецкага роду. Традыцыя сцвярджае, што маці перад яго нараджэннем убачыла сон: сабака з палаючай паходняй бяжыць і “запальвае свет”. Сапраўды, усё жыццё св. Дамінік не пазбягаў цемры, а наадварот, імкліва ішоў ёй насустрач.

Жыццяпісы св. Дамініка адрозніваюцца між сабой стылем і танальнасцю. Ёсць упэўненыя і паслядоўныя: вырашыў, здзейсніў, заснаваў, даручыў і г. д. Ёсць больш сціплыя, якія дадаюць да звестак “верагодна”, “мяркуецца”, “паводле легенды”. Трапіўся адзін невялікі аповед, у якім было кароткае, але вымоўнае слова – спачуванне. Яно вельмі шмат гаворыць аб постаці св. Дамініка, які за свае 50 гадоў здзейсніў так шмат для Касцёла і свету.

Несумненна, дзівам было б знайсці святога, які б не спачуваў іншым людзям. І Дамінік не быў выключэннем. Аднойчы, калі ён вучыўся ў “школах Паленсіі”, у краіне здарыўся голад. Для юнака гэта стала не толькі моцным перажываннем, але і пабуджэннем да дзеяння – ён прадаў усё, што меў, нават свае каштоўныя манускрыпты, патрэбныя для навучання. Яны маглі стаць святлом розуму, але Дамінік скіраваўся туды, дзе паміраюць з голаду.

Пазней спагада да людзей, якія цярпелі ад духоўнага голаду на пэўных абшарах Еўропы, стала прычынай пошуку ім шляхоў адпаведнай дапамогі. Застаўся там, дзе ўбачыў цемру неадукаванасці, памылковых поглядаў, нянавісці. Адмовіўшыся ад матэрыяльных выгодаў (нават ад коней як транспартнага сродку), Дамінік распачаў свой рух – з горада ў горад, пехатой, часта басанож… Існуюць сведчанні, што “дождж і іншыя нязручнасці зрывалі з яго вуснаў толькі праслаўленне Бога”.

Міласэрнасць, якой Дамінік імкнуўся ахапіць усіх, дазволіла яму і яго сябрам убачыць і выбраць шлях пераконвання, а не сілы. Той, хто шчыра суперажывае іншаму, не глядзіць звысока, але становіцца поруч. Спачуванне бачыць больш, чым іншы нават можа выказаць. Яно робіць магчымым адказ, які нараджаецца ў глыбіні сэрца.

Права “радавацца з тымі, хто радуецца, і плакаць з тымі, хто плача” мела ў Дамініку свой выток, свой зыходны пункт – любоў да Хрыста. Ён заўсёды маліўся перад Езусам укрыжаваным, але не пакінуў ніводнага твора пра малітву. Пасля смерці на аснове ўспамінаў сведкаў былі складзены знакамітыя “Дзевяць спосабаў малітвы св. Дамініка”. Падчас адной са сваіх катэхез, прысвечаных постаці гэтага святога, папа Бенедыкт XVI коратка акрэсліў іх сутнасць.

Кожны з 9-ці спосабаў малітвы адлюстроўвае глыбокі цялесна-духоўны падыход, які спрыяе засяроджанасці і руплівасці. Першыя 7 – этапы ўзрастання, як крокі на шляху да з’яднання з Богам, з Найсвяцейшай Тройцай: молячыся, св. Дамінік схіляўся ў паклоне, каб выказаць пакору; ляжаў на зямлі, каб вымаліць прабачэнне грахоў; кленчыў у пакаянні, падзяляючы цярпенні Пана; трымаў шырока распасцёртымі рукі, не зводзячы вачэй з крыжа, і сузіраў Дасканалую Любоў, глядзеў у неба, прыцягнуты рэчаіснасцю Божага свету. Ва ўсіх трох паставах цела – стоячы, укленчыўшы ці лежачы на зямлі – святы глядзеў на ўкрыжаванага Пана.

Наступны спосаб – асабістая медытацыя, падчас якой малітва станавілася яшчэ больш глыбокай, наталяючай. Пасля Літургіі гадзін і цэлебрацыі Эўхарыстыі св. Дамінік працягваў размову з Богам без абмежавання часу. Ён садзіўся ў ціхім месцы – унутрана засяроджаны, чуйны – чытаў кнігу ці пазіраў на крыж. Перажываў гэтыя хвіліны блізкасці да Бога настолькі глыбока, што яго радасць ці слёзы былі бачныя іншым. Дзякуючы медытацыі, увабраў у сябе рэчаіснасць веры. Сведкі распавядалі, што часам ён уваходзіў у пэўны экстаз, калі твар перамяняўся. Але адразу пасля таго ён з пакорай вяртаўся да паўсядзённай працы, умацаваны сілай з вышыняў.

Яшчэ адзін спосаб – малітва па дарозе з кляштара ў кляштар. Ён адмаўляў са сваімі таварышамі Ютрань, дзённыя малітвы і нешпары, а ідучы далінамі і пагоркамі, кантэмпляваў прыгажосць стварэння. Яго сэрца ўзносіла гімн праслаўлення і ўдзячнасці Богу за шматлікія дары, асабліва за найвялікшы цуд – збаўленне, прынесенае Хрыстом (катэхеза папы Бенедыкта XVI падчас агульнай аўдыенцыі ў Кастэль Гандольфа ад 8 жніўня 2012 года).

Апошні спосаб нагадвае сучасныя пешыя пілігрымкі ў марыйныя санктуарыі. Магчыма, св. Дамінік ахвотна далучыўся б да каторай з іх, бо вельмі шанаваў Маці Божую. І аднойчы пад вечар цяжкага дня можна было б спытацца ў яго не толькі пра тое, як палюбіць усіх людзей і знайсці свой спосаб малітвы, уласны шлях спачування, але і пра тое, як застацца ў дарозе. У працы і ў сужэнстве, у розных формах паклікання і наогул у хрысціянскім жыцці спагада і любоў дапамагаюць вырушыць у дарогу веры. Але як працягваць ісці, нягледзячы на дождж, спёку, нязручнасці, стому, роспач? Якім быў бы яго адказ?

*Тэрэса Клімовіч*

Лепш пытаць, чым памыляцца

## *Бог прызначае лёс чалавеку ад нараджэння?*

*Згодна з Божым словам, “гэта добра і прыемна ў вачах Збаўцы нашага, Бога, які хоча, каб усе людзі былі збаўленыя і дайшлі да пазнання праўды” (1 Цім 2, 3–4). Добрая навіна! Сэнс жыцця, прызначаны кожнаму чалавеку Богам, – быць збаўленым. Гэта азначае, што Нябесны Айцец спрыяе нам ва ўсім, каб дайшлі да мэты, прызначанай Ім. У сваёй дабрыні Стварыцель не толькі прадвызначае, але таксама робіць нас здольнымі дасягнуць збаўлення.*

*Калі чуем слова “прадвызначанасць”, можам адчуць страх, бо без святла Божага слова яно можа азначаць наканаванасць лёсу: дзесьці хтосьці вызначыў мне пражыць такое, а не іншае жыццё, з такім, а не іншым фіналам. Гэта сумна – жыць і ведаць, што не маеш уплыву на сваё жыццё, што з’яўляешся марыянеткай. Такое мысленне разбіваецца толькі Божым словам.*

*З першых старонак Бібліі прыходзім да высновы, што чалавек створаны Богам разумным, з несмяротнай душой, а таксама свабодным выбіраць. Усё Святое Пісанне прасякнута гэтай ідэяй незалежнасці чалавека ад свайго Стварыцеля. Мы не заложнікі таго, што свет называе лёсам або фатумам. Кожны дзень, кожную хвіліну вольныя ў сваім выбары: што падумаць, што сказаць, што зрабіць. Але, як гаварыў апостал Павел, “усё мне можна, але не ўсё карысна” (1 Кар 6, 12).*

*А. Андрэй Сідаровіч MIC*
***Паводле catholicnews.by***




***Кл. Аляксандр Шыманскі,*** *алюмн 3 курса Гродзенскай ВДС*
*Паходзіць з парафіі Яна Евангеліста і св. Максімільяна Кольбэ ў Мінску*

# Праз церні да зорак

**Цяжкасці ў маім жыцці з’яўляюцца як ласкай, так і любоўю Бога, бо дзякуючы ім узмацняецца вера.**

### ПРА ПАКЛІКАННЕ

Аб святарстве я разважаў з самага дзяцінства. Але сваім думкам не надаваў сур’ёзнага значэння, бо ўсе мае браты і сёстры таксама хацелі прысвяціць жыццё Богу. У кляштар ці семінарыю ніхто не паступіў, і я прыйшоў да высновы, што жаданне стаць святаром – вынік набожнага каталіцкага выхавання. Мая сям’я рэгулярна збіралася на вячэрняй малітве, заўжды наведвала касцёл.

Я скончыў гістарычны факультэт БДУ. Працаваў сацыяльным педагогам. Адслужыў у войску тэрміновую службу і службу па кантракце. Але нідзе не адчуваў сябе на сваім месцы! У такіх абставінах зведаў востры жыццёвы крызіс: як далей быць? кім павінен стаць? як знайсці сябе і Бога? Перад тым, як прыняць адказнае рашэнне, паўгады маліўся да Езуса, каб Ён дапамог зразумець, ці трэба мне ісці ў семінарыю. І, даверыўшыся Богу, ва ўзросце 27 гадоў здзейсніў задуманае, аб чым ніколі не пашкадаваў.

### ПРА СЕМІНАРЫЮ

У семінарыі самае галоўнае – навучыцца развіваць свае адносіны з Богам так, як гэта павінен рабіць святар, бо менавіта святар у сваім служэнні пакліканы несці людзям Хрыста, а не сябе. Каб магчы выконваць такую складаную паслугу, неабходны фундаментальныя веды.

Падчас вучобы ў семінарыі клерык становіцца чалавекам, здольным працаваць з іншымі людзьмі, прамаўляць гаміліі. Асаблівае месца ў фармацыі будучых святароў займае малітва, бо менавіта праз яе мы чуем голас Пана ў сваім сэрцы.

### ПРА ЦЯЖКАСЦІ

Мы вучымся ў навучальнай установе закрытага тыпу. З аднаго боку, гэта пэўнае абмежаванне, але з другога – падстава для духоўнага росту.

Адзін семінарыйны дзень вельмі падобны на другі. І каб жыццё не здавалася манатонным, я імкнуся пастаянна адкрываць для сябе нешта новае: спорт, цікавыя кнігі і шмат яшчэ чаго іншага.

### ПРА СВЯТАРСТВА

Святарства – гэта Божы дар. На мой погляд, нельга гаварыць, што святарскае служэнне вышэйшае за іншае, паколькі кожны дар паходзіць ад Пана. Але гэтае служэнне ўнікальнае.

Калі ў сваім жыцці я страціў бабулю, то асабліва разважаў наконт святарства. Перад смерцю бабуля паспавядалася і прыняла св. Камунію. Яна неабходна для збаўлення, каб з’яднацца з Хрыстом. Без паслугі святара сакрамант Эўхарыстыі не быў бы магчымым.

### ДУМАЮ, ШТО…

Тым, хто ў сваім жыцці разважае над пакліканнем, я раю прыехаць на рэкалекцыі ў нашу духоўную навучальную ўстанову і, стаўшы ў праўдзе перад Панам Богам, адказаць сабе на пытанне: хачу я быць святаром ці не? Безумоўна, сумненні будуць – гэта нармальна. На такое пытанне немагчыма адказаць адразу: патрэбны час.

Неабходна разумець, калі Бог нас да чагосьці кліча, то тым самым Ён прапануе сваю любоў, якую можам як прыняць, так і адкінуць.

## НАВІНЫ



## СВЯТА АХВЯРАВАННЯ ПАНА

2 лютага Каталіцкі Касцёл адзначаў свята Ахвяравання Пана. Яно прыгадвае дзень, калі Марыя і Юзаф ахвяравалі свайго першароднага Сына, Езуса, у іерусалімскай святыні.

У каталіцкай традыцыі гэта таксама свята Маці Божай Грамнічнай. Вернікі прыносяць у святыню свечкі для асвячэння. Святло г. зв. грамніц павінна абараняць ад грому: фізічнага і духоўнага, а таксама ахоўваць дом ад трагедый, пажараў і раптоўных няшчасцяў. Акрамя таго, асвечаную ў свята Ахвяравання Пана свечку даюць у рукі паміраючай асобе.

Адначасова з тым, ужо на працягу 24-ох гадоў Касцёл адзначае 2 лютага Дзень кансэкраванага жыцця. Св. Імшу ў катэдральнай базіліцы св. Францішка Ксаверыя ў Гродне ў гэты дзень узначаліў генеральны вікарый Гродзенскай дыяцэзіі кс. бп Юзаф Станеўскі. Іерарх заахвоціў усіх да малітвы ў інтэнцыі кансэкраваных асоб, якія служаць на тэрыторыі дыяцэзіі.

Чарговай урачыстай нагодай, каб памаліцца за пакліканых да асаблівай службы Богу і людзям, будзе Агульнабеларускі дзень кансэкраванага жыцця, які пройдзе ў Гродне 10 лютага. Кульмінацыяй сустрэчы прадстаўнікоў усіх манаскіх супольнасцей, якія служаць у нашай краіне, стане св. Імша апоўдні ў гродзенскай катэдральнай базіліцы.

### КУЛЬТУРНЫЯ ПАДЗЕІ

У Сапоцкінскім культурна-гістарычным цэнтры ў 19-ты раз адбыўся прагляд калядак і пастаралак. Свята сабрала шматлікіх вернікаў з Сапоцкінскага дэканата, гасцей з Гродна і ваколіц. Канцэрт па традыцыі арганізавала мясцовая парафія Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Язафата Кунцэвіча.

### ВЫШЭЙШАЯ ДУХОЎНАЯ СЕМІНАРЫЯ

Пасля кароткіх канікул клерыкі Гродзенскай ВДС вярнуліся з адпачынку ў родных дамах і парафіях. Алюмны распачалі 2-гі семестр, працягваючы далейшую фармацыю, якая ахоплівае духоўнае, інтэлектуальнае і пастаральнае вымярэнні.

### АДНЫМ РАДКОМ

• “Канцэрт для Езуса” ў выкананні малодшых парафіян прайшоў у гродзенскай катэдры. • “Мядовы фэст” з нагоды ўспаміну св. Францішка Сальскага адбыўся ў Смаргоні. • Біскуп Аляксандр Кашкевіч прыняў удзел у пахаванні біскупа Ломжынскай дыяцэзіі на пенсіі Станіслава Стэфанка ў Польшчы. • Завершаны чарговы этап працы над рэканструкцыяй кляштара сясцёр брыгітак у Гродне. • Канцэрт арганнай і класічнай музыкі адбыўся ў парафіі св. Міхала Арханёла ў Навагрудку. • “Маўклівы” перфоманс у памяць ахвяр Халакосту прайшоў у Гродне. • Міністранты з гродзенскай дыяцэзіі прынялі ўдзел у міжнародным турніры па футболе ў Варшаве (Польшча). • У капліцы ў Свяцку (дэканат Сапоцкін) ліквідавана загаранне: часткова знішчаны інтэр’ер святыні. • Рэкалекцыі для дзяўчат і жанчын прайшлі ў кляштары сясцёр кармэлітак у Гудагаі (дэканат Астравец). • Біскуп Юзаф Станеўскі адзначыў 6-ую гадавіну біскупскай сакры.

*Агляд навін падрыхтаваны на падставе інтэрнэт-старонкі **grodnensis.by**.*

### У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**9 лютага 2002 г.** – кс. Антоній Рафалка SDB, *проб. Ашмяны;*
**10 лютага 1948 г.** – кс. Раман Панoха, *вік. Радунь;*
**10 лютага 2003 г.** – кс. прэлат Люцыян Вайцяхоўскі, *праф. Гродзенскай ВДС;*
**13 лютага 1959 г.** – кс. Павел Сенкевіч, *ген. вік., проб. Гудагай;*
**15 лютага 1972 г.** – кс. Міхал Шалкевіч, *проб. Тракелі;*
**21 лютага 1979 г.** – кс. Станіслаў Казлоўскі, *проб. Баруны;*
**23 лютага 1985 г.** – кс. Уладзіслаў Мончка, *проб. Лунна.*

## АНОНСЫ

### РЭКАЛЕКЦЫІ АРГАНІЗУЮЦЦА Ў РОСІ

**Духоўныя практыкаванні пройдуць у рэкалекцыйным доме “Голас Айца”.**

**План рэкалекцый:**

**21–23 лютага**
“Дзесяць Божых запаведзей” *(праводзіць кс. Віктар Ханько).*

**28 лютага –1 сакавіка**
“Пост (хлеб і вада) – цішыня – малітва” *(праводзіць кс. канонік Чэслаў Паўлюкевіч).*

**13–15 сакавіка**
“Для сужэнстваў з малітвай аб дары патомства” *(праводзіць кс. канонік Чэслаў Паўлюкевіч).*

*Запрашаюцца ўсе жадаючыя! Для ўдзелу ў рэкалекцыях неабходна абавязковая рэгістрацыя па тэлефоне: (8 029) 886-31-28. Для запісу просьба тэлефанаваць з панядзелка па пятніцу ў гадзінах: 11.00–12.00, 20.00–21.00.*

*Акрамя таго, у мясцовай святыні праводзяцца традыцыйныя суботнія набажэнствы да Пана Езуса Журботнага. Яны адбудуцца 14 сакавіка, 9 мая. Пачатак у 17.00.*

### ДЗЕНЬ МАЛІТВЫ ДЛЯ ДЗЯЎЧАТ І ЖАНЧЫН ПРОЙДЗЕ Ў ГУДАГАІ

**Сустрэча арганізуецца 14–15 сакавіка. Яе тэмай стануць словы: “Жаночае сэрца – дом і святыня”.**

“Калі маеш жаданне спыніцца і адарвацца ад штодзённых абавязкаў; калі прагнеш паглядзець на сваё жаночае сэрца і спазнаць, што ў ім адначасова можа быць і дом, і святыня; калі сумуеш і адчуваеш абыякавасць; калі марыш сустрэцца з Хрыстом пад плашчом Марыі і дазволіць Яму дзейнічаць у жыцці, сёстры зmёртвыхпаўстанкі запрашаюць цябе на дзень малітвы”, – заахвочваюць арганізатары.

*Запіс трывае да 7 сакавіка. Па ўсіх пытаннях звяртацца па тэлефонах: (8 033) 903-61-71, с. Марыя Пія CR; (8 029) 109-84-29 – Інэса.*

### ІГНАЦЫЯНСКІЯ РЭКАЛЕКЦЫІ АДБУДУЦЦА Ў НАВАГРУДКУ

**Духоўныя практыкаванні з 12 па 26 чэрвеня праведуць айцы езуіты.**

Асаблівасць рэкалекцый заключаецца ў тым, што яны праходзяць у маўчанні. Такую практыку прапанаваў св. Ігнацый Лаёла. Кожны дзень адбываецца асабістая размова з духоўным кіраўніком.

Да ўдзелу запрашаюцца свецкія вернікі, кансэкраваныя асобы і святары. Для тых, хто прыедзе ўпершыню, прадугледжаны больш кароткі тэрмін рэкалекцый.

*Падрабязная інфармацыя і запіс па тэлефонах: (8 044) 465-18-78, (8 029) 511-19-74 – с. Вікторыя Жук MSF, – альбо праз электронную пошту: jezuity.by@gmail.com.*

### ПАРАФІЯ Ў ВАЎКАВЫСКУ ЗАПРАШАЕ Ў ПІЛІГРЫМКІ Ў СВЯТУЮ ЗЯМЛЮ, ГРЭЦЫЮ І ІТАЛІЮ

**Паломніцтва па Святой Зямлі адбудзецца з 26 красавіка па 3 мая.**
У яго межах можна будзе наведаць святыя месцы і санктуарыі, звязаныя з зямным жыццём Езуса, Марыі і апосталаў.

**Аўтобусная пілігрымка ў Грэцыю запланавана на 15–24 чэрвеня.**
Маршрут пралягае праз Белград, Салонікі, Афіны, старажытныя Мікены, Алімп.

**Аўтобуснае паломніцтва ў Італію пачнецца 30 жніўня і працягнецца да 6 верасня.**
У праграме: наведванне Мілана, Венецыі, Падуі, Рыма, Асізі і іншых месцаў, звязаных з жыццём святых.

*Атрымаць падрабязную інфармацыю і запісацца можна па тэлефоне: (8 029) 313-65-64 – кс. канонік Алег Дуль, пробашч парафіі св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску.*

### РЭКАЛЕКЦЫІ ДЛЯ МУЖЧЫН АДБУДУЦЦА Ў ШЧУЧЫНЕ

**Духоўныя практыкаванні будуць праходзіць 21–23 лютага пры касцёле св. Тэрэзы Авільскай.**

Падчас рэкалекцый можна будзе паразважаць над тым, хто такі мужчына, як зразумець самога сябе, як разабрацца ў сваёй мужчынскай прыродзе. Практыкаванні правядзе кс. Аляксандр Жарнасек MIC з Оршы (Віцебская дыяцэзія). Іх тэма – “Пазнаючы самога сябе”.

Прапануецца таксама ўдзел у асобных пунктах праграмы ў зручны час. З сабой неабходна мець Біблію, малітоўнік, сшытак, ручку.

*Падрабязная інфармацыя і запіс па тэлефонах: (8 033) 624-42-85 – Павел; (8 033) 621-66-56 – Віталій; (8 044) 733-71-67 – Viber.*

## Каляндар падзей

***10 лютага***
*Успамін св. Схаластыкі, панны.*

***11 лютага***
*Сусветны дзень хворых.*

***14 лютага***
*Свята свсв. Кірыла і Мятода, заступнікаў Еўропы.*

***22 лютага***
*Свята катэдры св. апостала Пятра.*

***Заахвочваем да малітвы ў інтэнцыі Святога Айца Францішка і Паўсюднага Касцёла.***

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Люты***

*Аб ласках, патрэбных нашым душпастырам. У інтэнцыі ксяндзоў пробашчаў, вікарыяў, душпастыраў, каб рупліва клапаціліся пра збаўленне душ.*

*Аб шчодрым духоўным плёне Дыяцэзіяльнага сінода.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***“Голас Евангелля”***

*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***

*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім. Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале “Культура” Беларускага радыё.*

***Інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі grodnensis.by***

*Актуальныя навіны, фота, відэа. Даведайся больш пра жыццё Каталіцкага Касцёла на Гродзеншчыне!*

## Дзіцячы куточак

# Бог звяртаецца да чалавека праз Біблію

*Прывітанне, Маленькі Чытач! Ці любіш Ты атрымліваць лісты або паведамленні? Сёння я хачу распавесці пра ліст, які для мяне і для кожнага чалавека напісаў самы дарагі на свеце Айцец – Пан Бог. Гэты цудоўны ліст называецца Святое Пісанне, або таксама Біблія.*

*Біблія з’яўляецца святой кнігай, таму што яе аўтар – сам Бог. Але Ён выбраў яшчэ аўтараў-людзей, якія пад натхненнем Святога Духа запісалі словы Усемагутнага. У Бібліі Бог паступова адкрываецца чалавеку, паказвае яму сваю вялікую любоў і крок за крокам вядзе да сябе. З аднаго боку, Святое Пісанне адрасавана ўсім людзям, якія жывуць на зямлі, а з іншага – скіравана кожнаму з нас асабіста. Гэта Божае Адкрыццё, якое з’яўляецца асноўнай крыніцай веры. Усе, хто чытае або слухае Божае слова, маюць жывы кантакт з Панам.*

*Святое Пісанне мы можам назваць Божай бібліятэкай. Яна ўтрымлівае 73 кнігі і складаецца з 2-юх частак: Старога Запавету і Новага Запавету. Слова “запавет” азначае дамову, якая пацвярджае саюз Бога з людзьмі. Стары Запавет утрымлівае 46 кніг, якія апавядаюць аб людзях і падзеях да нараджэння Езуса Хрыста: пра стварэнне свету і чалавека, пра першародны грэх, пра пакліканне і гісторыю выбранага народа, пра запавет на гары Сінай, пра прароцтва аб прыйсці нашага Збаўцы, Езуса Хрыста. Новы Запавет складаецца з 27-мі кніг, якія апавядаюць аб жыцці і дзейнасці Езуса Хрыста, Яго апосталаў і пра заснаваны Ім Касцёл.*

*Біблія з’яўляецца самай важнай і галоўнай кнігай у свеце, таму яе называюць Кнігай кніг. Калі чалавек уважліва чытае яе і хоча перамяніцца, каб жыць паводле праўды Божай, яна дапаможа. Менавіта аб гэтым, дарагі Маленькі Чытач, будзе сённяшняе апавяданне італьянскага святара Бруна Фэрэра “Замураваная Біблія”.*

***10 мая 1861 года пажар знішчыў горад Гларыс у Швейцарыі: згарэлі 490 дамоў. Жыхары вырашылі адбудаваць свой горад.***

***У адну са шматлікіх майстэрняў, якія тады паўсталі, прыбыў малады муляр з паўночнай Італіі. Звалі яго Ян. Юнак павінен быў даследаваць стан пашкоджанага муру. Калі пачаў ударыць малатком, адваліўся кавалак тынку. І ён убачыў кнігу, якая знаходзілася на месцы адной цэглы. Тоўсты том такім чынам замуравалі. Ян з зацікаўленасцю выцягнуў кнігу. Гэта аказалася Святое Пісанне.***

***Малады муляр ніколі асаблівым чынам не цікавіўся рэлігіяй, але падчас абедзеннага перапынку пачаў чытаць кнігу. Працягнуў потым чытаць вечарам дома… і так падчас шматлікіх далейшых вечароў. Паволі адкрываў словы, якія Бог скіраваў да людзей.***

***Праз два гады прадпрыемства, на якім працаваў Ян, перанеслі ў Італію. Майстэрні былі вельмі вялікімі, а працаўнікі жылі супольна ў некалькіх пакоях. Аднойчы вечарам сусед Яна з цікавасцю назіраў за хлопцам, які ўважліва чытаў сваё Святое Пісанне.***

***– Што чытаеш? – спытаўся.***

***– Святое Пісанне, – спакойна адказаў той.***

***– Хм! Як ты можаш верыць ва ўсю гэтую хлусню? – з насмешкай сказаў сусед. – Падумай толькі, што я аднойчы замураваў адну Біблію ў сцяне дома ў Швейцарыі. Цікава мне, ці які д’ябал альбо хтосьці замест яго выдаўбіў яе адтуль?***

***Ян падняў галаву і паглядзеў у вочы калегі:***

***– А калі б я паказаў табе менавіта тую Біблію?***

***– Пазнаў бы, бо пазначыў яе спецыяльна, – адказаў.***

***Ян падаў калегу том, які трымаў у руцэ:***

***– Ці пазнаеш тут свой знак?***

***Калега ўзяў у рукі кнігу і ў здзіўленні змоўк. Гэта была менавіта тая Біблія, якую ён замураваў у Швейцарыі, кажучы тады сябрам: “Хацеў бы паглядзець, ці выберашся адсюль!”.***

***Ян усміхнуўся:***

***– Як бачыш, вярнулася да цябе!***

*Вось так, дарагі Маленькі Чытач, Біблія можа паўплываць на жыццё чалавека, таму яна павінна быць у кожнай сям’і і займаць ганаровае месца ў доме. Святое Пісанне трэба чытаць і звяртацца да яго за парадай. Перад чытаннем Божага слова варта запаліць свечку і папрасіць Святога Духа, каб асвятліў розум і дапамог зразумець, што Бог хоча сказаць у дадзены момант.*

*Бягучы год у нашым Касцёле аб’яўлены Сусветным годам Бібліі. Таму і я заклікаю Цябе, Маленькі Чытач, часта карыстацца гэтай цудоўнай кнігай і з яе чэрпаць мудрасць.*





**Заданне:** ***раскажы сваім сябрам пра Біблію; выбяры дзень і час, калі будзеш чытаць і разважаць Божае слова, і папрасі дарослых, каб дапамаглі Табе ў гэтым.***

*С. Вераніка Блізнюк FMA*

# Ад шчырага сэрца

**Паважанаму Ксяндзу Каноніку Віктару Велівісу**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, поспехаў у душпастырскай працы, душэўнага супакою і добразычлівых людзей побач. Няхай Езус Хрыстус адорвае Вас усімі ласкамі, Анёл-ахоўнік дадае сіл, Маці Божая ахінае сваёй мацярынскай пяшчотай, а Святы Дух вядзе праз усё жыццё.

*Парафіяне з Путрышкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Міхалу Стэцкевічу**

з нагоды Дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, шмат радасці ў нялёгкай душпастырскай паслузе, сіл для рэалізацыі ўсіх планаў і намераў. Дзякуем Вам за тое, што абвяшчаеце Божую навуку, што ў Яго Імя нам прабачаеце, што ўдзяляеце Яго Цела, а таксама за духоўнае кіраўніцтва, парады і настаўленні. Няхай Хрыстос у любові прытуліць Вас да свайго сэрца, святы Юзаф і Найсвяцейшая Панна Марыя дапамагаюць ва ўсіх штодзённых справах, а мы падтрымаем у малітве. Няхай Ваша мудрасць, дабрыня і клопат пра дарослых, моладзь і дзяцей заўсёды будуць для кожнага з нас прыкладам жыцця, а любоў і супакой застаюцца назаўжды ў Вашым сэрцы.

*Парафіяне з касцёла Найсвяцейшай Тройцы ў Бердаўцы*

**Паважанаму Айцу Андрэю Шчупалу**

з нагоды Імянін жадаем моцнага здароўя і нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці і святога Заступніка. Няхай усё жыццё будзе напоўнена святлом і любоўю, Збаўца вядзе цудоўным святарскім шляхам, а побач будуць толькі зычлівыя людзі. Шчасці Божа!

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Новай Руды*

**Паважанаму Ксяндзу Вячаславу Матукевічу**

з нагоды Дня нараджэння складаем шчырыя віншаванні.
Здароўя моцнага жадаем,
Малітву ў Неба пасылаем,
Каб сілу духа Бог Вам даў,
Цярплівасць да людзей паслаў.
Хай Марыя дарагая
Плашчом любові ахінае.
Няхай цяжкасці не страшаць,
Пан мілуе, цешыць, лашчыць.
Вы прабачце грэшных нас,
Што пакрыўдзілі падчас.
Хай за гэта добры Бог
Зберажэ Вас ад трывог.

*Касцёльны камітэт і вернікі з парафіі Дуды*

**Паважанаму Ксяндзу Валянціну Хведуку**

з нагоды Імянін жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, стойкасці і нястомнага запалу ў выкананні святарскай паслугі. Няхай Найсвяцейшая Маці разам са сваім Сынам заўсёды маюць Вас у сваёй апецы і спадарожнічаюць на працягу ўсяго жыцця, каб заўсёды з вялікай радасцю служылі Богу і людзям.

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Беліцы*

**Паважанаму Ксяндзу Валянціну Хведуку**

з нагоды Імянін перасылаем найлепшыя пажаданні. Няхай у гэты радасны дзень міласэрны Езус прытуліць Цябе да свайго Найсвяцейшага Сэрца, адорыць моцным здароўем, бласлаўленнем і ўсімі неабходнымі ласкамі на доўгія гады. Жадаем сталай апекі святога Заступніка і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай Тваё жыццё будзе напоўнена святлом, радасцю і моцнай, непахіснай верай, а ўсе пастаўленыя мэты рэалізуюцца з Божай дапамогай.

*Родныя*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Міхалу Стэцкевічу**

з нагоды Дня нараджэння жадаем Божага бласлаўлення і апекі Маці Божай на кожны дзень, моцнага здароўя на доўгія гады, радасці і цярплівасці ў нялёгкай святарскай паслузе. Ад усяго сэрца дзякуем за дабрыню і адкрытасць.

*З малітвай і павагай вернікі з парафіі св. Казіміра, Першамайск-Нецеч*

**Паважанай Сястры Агаце Смольскай**

з нагоды Імянін складаю сардэчныя пажаданні: здароўя, поспехаў і апекі святой Заступніцы. Няхай Ваш шлях служэння Богу будзе шчаслівы, доўгі і плённы, а Усемагутны ўзнагародзіць за тое, што дазваляеце людзям з верай, надзеяй і любоўю ісці праз жыццё.

*З памяццю ў малітве Аліцыя Воранава са Смаргоні*

**Паважанаму Айцу Андрэю Шчупалу**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні: радасці, моцнага здароўя, добразычлівасці ад людзей, нязгаснага запалу веры, сіл і нястомнасці ў святарскай паслузе. Няхай усе непрыемнасці, якія сустракаюцца на Вашым шляху, ніколі не знеахвочваюць, а толькі ўзмацняюць і вядуць да святасці.

*Сям’я Заяц*

**Паважанаму Ксяндзу Раману Ялоўчыку**

з нагоды Імянін жадаем здароўя, шчасця, поспехаў, радасці на кожны дзень жыцця і святарскай паслугі, апекі Маці Божай і святога Заступніка. Няхай Пан Бог адорыць Вас патрэбнымі ласкамі.

*Былыя парафіяне з в. Навіянка*

**Паважанаму Ксяндзу Каноніку Віктару Велівісу**

з нагоды Дня нараджэння складаем сардэчныя пажаданні: доўгіх гадоў жыцця ў добрым здароўі, шмат сілы для рэалізацыі планаў, стойкасці, душэўнага супакою, сапраўднай радасці, аптымізму і нязгаснага запалу ў службе Богу і людзям, Божага бласлаўлення на кожны дзень, клапатлівай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і святога Заступніка, а таксама шчодрых ласкаў ад міласэрнага Пана.

*З павагай і ўдзячнасцю вернікі з парафіі ў Грандзічах*

**Дарагому Сыну Ксяндзу Вячаславу Матукевічу**

з нагоды Дня нараджэння жадаем Божага бласлаўлення, апекі Маці Божай, моцнага здароўя, сілы, цярплівасці на душпастырскім шляху. Кроч ім мужна і верна, поўны Божай мудрасці і святога запалу. Няхай кожны дзень праходзіць у радасці і спакоі, а побач будуць толькі добразычлівыя людзі.

*Мама і тата*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Пузыну і ўсім яго родным**

у сувязі са смерцю бацькі перасылаем словы шчырага жалю і спачування. Няхай Бог дадае моцы, каб перажыць цяжар страты. Яднаемся з Вамі ў малітве аб супакоі для яго душы, раздзяляючы боль і смутак.

*Вернікі з парафіі св. Міхала Арханёла ў Ашмянах*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб’ядноўваць пажаданні.**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч;** заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** тэл. **(80152) 75-64-38; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.** Тэхнічны рэдактар – Юрый Лавыш.
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 ад 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 642; тыраж 5045; аб’ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты. Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная